7 траўня 1999 г. пятніца

# НАВІНЫ

№49 (580) кошт свабодны




## Ліст адчаю да трох прэзідэнтаў

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Маці трох абвінавачаных па справе аб забойстве прэзідэнцкага кантралёра Яўгена Мікалуцкага напісалі адкрыты ліст прэзідэнтам Беларусі, ЗША і Расіі. Тамара Янчэўская, Яўгенія Гаўрылава і Ніна Заідзэ заклікаюць зрабіць працэс над іх сынамі адкрытым, дапусціць на суд прадстаўнікоў грамадскасці, прэсу і родных. «Ад гэтага залежаць справядлівасць прысуду і жыцці нашых сыноў», — у адчаі заяўляюць жанчыны. Яны баяцца за жыццё сваіх дзяцей, бо не вераць следчым, якія вялі гэтую справу. У турэмнай камеры ўжо загінуў адзін з тых, каго затрымалі па абвінавачанні ў забойстве Мікалуцкага, нагадваюць жанчыны і сцвярджаюць, што падчас следства на абвінавачаных і сведкаў аказваўся трывалы ціск, іх застрашвалі, пагражалі пазбаўленнем волі, калі яны не дадуць патрэбных паказанняў.

«Мы хацелі б суда, а не судзілішча над нашымі сынамі», — заяўляюць маці, чыіх сыноў абвінавачваюць у забойстве Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на беларускага прэзідэнта. Па беларускіх законах, за гэта ім пагражае смяротная кара. «Зрабіце хоць нешта, каб не адбылася трагедыя і невінаватых не спасцігла смерць», — заклікаюць яны Аляксандра Лукашэнку, Біла Клінтана і Барыса Ельцына. ■

***Падрабязнае інтэрв'ю, якое далі родныя абвінавачаных, чытайце ў наступным нумары НАВІНАЎ.***

# Без фанатызму!

## Сядзіце дома і чакайце — да вас прыйдуць. З урнамі для галасавання

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Учора пачалося датэрміновае галасаванне па выбарах прэзідэнта Беларусі. Чатырнаццаць тысяч хадакоў з выбарчымі урнамі (адна урна на два чалавекі) пачалі свае падарожжа па кватэрах патэнцыйных выбаршчыкаў. Кожнай пары трэба «ахапіць» у сярэднім па тысячы чалавек.**



Па словах старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара, перад выбарчымі камісіямі пастаўленая задача зайсці ў кожны дом, кожную кватэру. Па ягоных словах, выбаршчыкам лепей за ўсё не турбавацца, нікуды не хадзіць і галасаваць дома — у адзін з дзён да 16 траўня ўвечары (пасля 18 гадзінаў) да вас завітаюць прадстаўнікі Цэнтрвыбаркама і прапануюць выканаць свой грамадзянскі абавязак. У сельскай мясцовасці, па словах Віктара Ганчара, цяпер вырашаецца пытанне аб выдзяленні камісіям дадатковага аўтатранспарту — каб абʼехаць максімальную колькасць выбаршчыкаў. Пакуль што энтузіясты абʼязджаюць вёскі на ўласных машынах.

Усе выбарчыя камісіі атрымалі ўказанні: пры затрыманні міліцыяй не перашкаджаць канфіскацыі урнаў для галасавання, але не аддаваць «у рукі ворага» спісы выбаршчыкаў — каб не падставіць іх.

Тым часам пачаліся першыя рэпрэсіі ўладаў супраць каардынатараў выбараў. Так, у сераду вечарам на ўездзе ў Магілёў міліцыянты затрымалі машыну каардынатара выбараў па Магілёўскай вобласці Анатоля Фёдарава. Як паведамілі нам у Цэнтрвыбаркаме, у А.Фёдарава было пры сабе 42 тысячы выбарчых бюлетэняў, якія былі сканфіскаваныя, пасля чаго каардынатара адпусцілі. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Касавары захапілі ў палон беларускіх наёмнікаў?

Украінскае інфармацыйнае агенцтва УНІАН паведаміла са спасылкай на саудаўскую газету «Аш-Шарк Аль-Аусат», якая выдаецца ў Лондане, аб захопе вызваленчай арміяй Косава ў палон 20-ці расійскіх і беларускіх наёмнікаў. Карэспандэнт газеты сцвярджае, што палонныя, сярод якіх ёсць і былыя афіцэры, перададзеныя камандаванню часцей NATO, раскватараваных у Албаніі.

Тое, што пра гэты факт паведаміла нейкая невядомая газета, выклікала ў нас недавер. НАВІНЫ паспрабавалі пацвердзіць або абвергнуць інфармацыю, звярнуўшыся да свайго карэспандэнта ў Лондане. Але пакуль вядома толькі тое, што газеты «Аш-Шарк Аль-Аусат» у шырокім продажы няма. Магчыма, што гэта выданне нейкага зямляцтва. НАВІНЫ працягваюць сваё расследаванне.

У той жа час у Савеце бяспекі паведамілі, што не валодаюць звесткамі, якія б пацвярджалі факты ўдзелу беларускіх грамадзянаў у якасці наёмнікаў у баявых дзеяннях на тэрыторыі Югаславіі.

***Аддзел інфармацыі***

### Прыбыў новы пасол Вялікабрытаніі

5 траўня ў Мінск прыбыў Іян Чарльз Кэлі -- новы Пасол Яе Вялікасці Каралевы Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь. Нагадаем, што 50-гадовы Іян Кэлі зменіць на пасадзе кіраўніка брытанскай дыпламатычнай місіі Джэсіку Пірс, якая працавала ў сталіцы Беларусі з 1996-га па 1999 год і была самай маладой жанчынай-паслом у гісторыі МЗС Вялікабрытаніі.

***Аддзел інфармацыі***




## Сессия парламентского собрания союза Беларуси и России переносится на более поздний срок

**Виктория ТУРОВА**

Очередная сесия парламентского собрания союза России и Беларуси в очередной раз перенесена. Так повелось: как только депутаты должны обсудить какие-нибудь действительно значимые вопросы, так сразу документы не готовы. В этот раз не готов проект союзного договора.

Российская и белорусская стороны на самом высшем уровне так и не договорились о том, каким должен быть союз. У каждого из президентов свое собственное видение нашего светлого будущего и, к счастью, весьма отличное друг от друга. Как говорят официальные источники, Москва тяготеет к более мягкой модели объединения — нечто такое конфедеративное, но так, чтобы свои регионы не обиделись. Минск настаивает на мощных и полновластных союзных органах. Парламентарии обеих стран имеют свою точку зрения. В то время как Кремль предлагает сделать единым только законодательное собрание, а белорусская сторона пытается протянуть пост единого президента, депутаты двух стран предлагают образовать союзное правительство и обойтись без главы единого государства, справедливо полагая, что треугольник из трех президентов окажется бермудским.

Не исключено, что инициатива депутатов не понравилась обеим президентам, поэтому ее даже обсудить на сессии толком не дали, предложив подождать, пока главы государств между собой сами не договорятся. Анатолий Малофеев и Геннадий Селезнев полагают, что на это уйдет 2–4 недели, к тому же ранее заявлялось, что новые договорные документы должны появиться к 1 июня. Так что встретятся парламентарии только летом. ■

## НАДВОР'Е




8 траўня па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя ападкі. Вецер паўночна-заходні, 4–9 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 0–5 градусаў марозу, месцамі 1–3 градусы цяпла. У нядзелю надвор'е істотна не зменіцца. Па большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць ападкі.

## Свята Перамогі падаравала Валерыю Шчукіну пяць дзён на волі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Чарговаму адміністратыўнаму пакаранню ў выглядзе 5 сутак пазбаўлення волі падверглі Валерыя Шчукіна ў судзе Савецкага раёна горада Мінска. Ён быў асуджаны за тое, што 2 красавіка выказваў, разам з групай грамадзянаў, пратэст супраць уводу на тэрыторыю Беларусі ядзернай зброі, чым, на думку суддзі, парушыў грамадскі парадак. Тым не менш, нягледзячы на прысуд, 15 разоў судзімы «рэцыдывіст» Шчукін — на волі. Улічыўшы тое, што Валерый Аляксеевіч з'яўляецца афіцэрам узброеных сілаў, а на носе 9 траўня, пачаць сядзець Шчукін павінен з раніцы 10-га, пасля таго, як адсвяткуе дзень Перамогі. ■

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**420 000**

# ЗША паслядоўна змагаюцца за дэмакратыю

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Пасол ЗША Дэніэл Спекхард заклікаў беларускія ўлады вызваліць з турмы кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра на час правядзення расследавання. Пра гэта ён заявіў учора на брыфінгу для журналістаў.**

Падчас сустрэчы Спекхарда з Віктарам Ганчаром адбыліся кансультацыі наконт выбараў 16 траўня, магчымых вынікаў і палітычных наступстваў, звязаных з заканчэннем 20 ліпеня прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. Віктар Ганчар паведаміў, што вырашаныя ўсе пытанні, звязаныя з правядзеннем выбараў, і няма сур'ёзных сумненняў, што яны не адбудуцца.

Спадар Спекхард разглядае 16 траўня як «жаданне беларускай апазіцыі дабіцца ўмацавання дэмакратычных інстытутаў». Ён спадзяецца, што беларускі ўрад выкарыстае гэтую акалічнасць для пачатку дыялогу, каб ліквідаваць існуючыя супярэчнасці паміж уладамі і апазіцыяй. Пасол спадзяецца, што ў прамежак часу паміж 16 траўня і 20 ліпеня з'явяцца моманты, якія будуць садзейнічаць вырашэнню супрацьстаяння, якое склалася ў беларускім грамадстве. Што датычыцца крызісу вакол «Драздоў», то, па словах пасла, пакуль не вырашанае гэтае пытанне, візавыя санкцыі ў адносінах да высокапастаўленых чыноўнікаў будуць дзейнічаць.

# Оппозиционные партии могут быть ликвидированы

**Отдел информации**

Общественные объединения и политические партии Беларуси, не прошедшие перерегистрацию до 1 июля, будут ликвидированы в установленном законом порядке. Об этом говорится в сообщении пресс-службы министерства юстиции республики, переданном агенством «Интерфакс».

Согласно требованиям минюста, в уставных документах общественного объединения в обязательном порядке должна быть ссылка на соответствие его деятельности новой редакции конституции. Вместе с тем, большинство белорусских политических партий отказываются признавать действие президентской конституции, принятой на референдуме 1996 года, и заявляют о приверженности Конституции 1994 года. Их позицию разделяет ряд международных организаций. В частности, Евросоюз добивается отмены требований положения о перерегистрации, согласно которым партии должны зафиксировать в уставных документах признание редакции конституции 1996 года.

Крупнейшие демократические партии республики пока документы на перерегистрацию не подали.

## МНЕНИЕ СТРАНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит наш партнер — лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого.**

# Кто выступит против роста цен и падения уровня жизни?







Если сравнивать показатели прошлого и нынешнего годов, то можно сделать однозначный вывод о том, что белорусское общество радикализуется. Количество тех, кто считает, что в его населенном пункте возможны массовые выступления, за год удвоилось и превысило четверть населения страны. Возросло и число тех, кто готов выйти на улицу, чтобы выразить свое негативное отношение к росту цен и снижению уровня жизни. На сегодняшний день таковых 25,6% против 17,2% в марте прошлого года. Если сохранится нынешняя динамика ухудшения экономической ситуации, то к осени нынешнего года число белорусских граждан, готовых выйти на улицу, может приблизиться к пятидесяти процентам.

## РАБОЧЫ РУХ

# Сварка прафсаюзных лідэраў

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Былы прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Генадзь Быкаў абвінавачвае свайго пераемніка Віктара Бабаеда ў тым, што ён быў абраны ў кіраўніцтва прафсаюза з вялікімі парушэннямі.**

У Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) уваходзяць больш за 15 тысяч чальцоў прафсаюзаў, апазіцыйных «афіцыйным»: шматгаліновага Свабоднага прафсаюза Беларускага (па розных ацэнках, ад 2 да 5 тысяч чальцоў), Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў (ад 6 да 10 тысяч чалавек), Свабоднага прафсаюза металістаў (2-4 тысячы), а таксама прафсаюзаў транспартнікаў і педагогаў. На чале кангрэса стаіць прэзідэнт. Да канца лютага прэзідэнтам з'яўляўся Генадзь Быкаў, але потым ён пайшоў у адстаўку, і на гэтую пасаду быў абраны старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў Віктар Бабаед.

Цяпер Генадзь Быкаў сцвярджае, што Віктар Бабаед стаў лідэрам прафсаюза гарнякоў з парушэннем афіцыйнай працэдуры — маўляў, на з'ездзе гарнякоў за яго прагаласавала менш дэлегатаў, чым патрабуе статут прафсаюза. Г.Быкаў падмацоўвае сваю заяву экспертным заключэннем, зробленым паважанымі беларускімі юрыстамі.

Віктар Бабаед называе сцвярджэнні Быкава «трызненнем» — па яго́ных словах, ужо адбыліся два суды, якія пацвердзілі правільнасць яго абрання старшынёй прафсаюза гарнякоў. Тым болей, што на сакавіцкім з'ездзе ўсяго кангрэса, калі адбываліся выбары прэзідэнта, кандыдатура Бабаеда была падтрыманая практычна ўсімі прафсаюзамі. І вось цяпер, калі з'езд прайшоў, Быкаў раптам зноў узяўся за старыя абвінавачванні.

Па словах В.Бабаеда, за той час, пакуль Быкаў з'яўляўся прэзідэнтам БКДП, ён практычна развaліў усю сістэму канфедэрацыі прафсаюзаў, увёў аўтарытарныя формы працы, колькасць чальцоў прафсаюзаў зменшылася з 20 да 15 тысяч чалавек. Так што цяпер, па словах В.Бабаеда, яму даводзіцца выпраўляць хібы працы свайго папярэдніка.

## РОЗДУМ

# Нищета съедает чувство достоинства

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ, председатель Объединенной гражданской партии**

Почему мы живем так плохо? Почему обнищало население, в то время как в соседних Литве, Латвии, Эстонии, Польше укрепились экономики, растет покупательная способность национальных валют? Почему за 1998 год уровень средней заработной платы и пенсий в реальной оценке упал более чем в 2 раза? Почему индекс инфляции за 1998 год составил 282%?

Этих «почему» набирается множество.

Президент Лукашенко не видит перспектив самостоятельного развития Республики Беларусь в содружестве стран Европы. По его мнению, спасение белорусского народа от нищеты — в слиянии Беларуси с обнищавшей, насквозь коррумпированной, но ядерной и поэтому мнящей себя великой Россией. Может быть, действительно нам недостает лишь полной конфронтации с Европой, направления ресурсов на удвоение вооружения и обслуживания великодержавных пополнзновений России?

Сегодня, после восьми лет «поисков», в стране присутствуют лишь отдельные элементы рыночной экономики, нет конкуренции, разрушена финансово-банковская система, а также система сбережений и инвестиций. В 1998 г. поступление валютной выручки на транзитные счета предприятий сократилось на 827 млн. долларов (на 23%). Наиболее болезненный итог «белорусского чуда» — снижение реальной покупательной способности населения. Суммарные денежные запасы населения в долларовом эквиваленте (по официальному курсу) составляли: на 1 января 1997 г. — 888,9 млн. долларов, на 1 января 1999 г. — 536,2 млн. долларов. То есть, за последние два года они сократились на треть.

В стране, по существу, создана командная экономика без централизованного планирования. В общественно-политической жизни разрушены атрибуты демократического самоуправления в виде независимого парламента, независимой судебной системы, местных Советов, свободных СМИ, других институтов гражданского общества. В самой системе государственной власти произошло перераспределение властных полномочий от местной «вертикали», различных министерств и ведомств на вершину административной пирамиды.

Нам чрезвычайно дорого обходится «белорусская экономическая модель» — «семейная экономика», управляемая иерархической вертикалью во главе с «батькой». В этой экономике прибыль, рентабельность, собственность, воспроизводство затраченного капитала, обесценивание денежных сбережений не играют заметной роли. Ее главный приоритет – социальная стабильность. Во имя этой цели на потребление (в ущерб будущему страны – инвестициям) в последние годы на-



правлялось порядка 2 млрд. долларов амортизационного и основных фондов. Во имя этой цели государством искусственно поддерживаются неэффективно работающие предприятия и даже целые отрасли экономики, расширяется бюрократический аппарат (на 10.000 человек в РБ приходится 68 госбюрократов, в России – 28, или в 2,4 раза меньше). В Беларуси установлен самый низкий среди стран бывшего Союза прожиточный минимум – 11 долл. (против 21,1 долларов на Украине и 35,8 долларов в России).

Экономические ориентиры «президентской вертикалью» к концу прошлого года были полностью утрачены. Власть не осознает причин обвала цен и валютного курса, обнищания граждан в условиях мнимого статистического роста «реальных» доходов населения. Национальный банк замалчивает факт разорения банковской системы. При этом экономический и политический курсы страны не меняются. Для общественности озвучен «глубокомысленный анализ» причин кризиса: 1) виноват «народ, который скупает все на корню, себе во вред завалил холодильники и балконы продовольствием» («У меня волосы дыбом стали!» — А.Лукашенко); 2) виновата Россия. «Процветающая Беларусь» страдает исключительно от российского кризиса. Челноки вывозят продовольствие голодающей России. «Гайдаро-чубайсы» и другие «враги» торпедируют интеграцию и расчеты по бартеру.

Президент Лукашенко сам изолировал Беларусь от экономически развитых стран Европы, от западных рынков, от международных финансовых организаций, от внешних инвестиций и новейших технологий, от дешевых кредитов МВФ и Мирового банка, односторонне привязал страну к России и ее нестабильной валюте. В 1998 г. доля России в нашем экспорте составляла 65%. Удельный вес второго по значению импортера нашей продукции, Украины — лишь 5,5%, что никак не соответствует ее экономическому потенциалу.

Гипертрофированная привязка страны к России привела к обострению застарелых хозяйственных недугов, сделала нашу экономику исключительно уязвимой. Страна по-прежнему существует только за счет вывоза товаров в Россию. О продаже товаров на валютных рынках всерьез говорить не приходится. Наш экспорт в дальнее зарубежье имеет сырьевую направленность (калийные удобрения, необработанные лесоматериалы, черные металлы, химические волокна и нити, древесно-волокнистые плиты). Из основной продукции (кроме тракторов) в дальнее зарубежье реализовано лишь 11,7% от всего количества экспортированных станков, 4,0% грузовых автомобилей, 3,3% велосипедов, 1,3% холодильников и морозильников, 0,4% телевизоров. Все остальное (из-за неконкурентности на свободных рынках) «поставлено» в Россию, частично в другие страны СНГ.

Неэффективная экономическая система **не может не привести** к краху политической, так как исчерпаны резервы ее функционирования. В этих условиях президентская «вертикаль» делает все возможное, чтобы не дать обществу структурироваться на основе гражданских институтов, отражающих интересы его разных социальных и культурных групп, поддерживает иллюзии на иждивенчество, поощряет гражданскую и политическую пассивность. Монополизированные телевидение, радио и массовые газеты насаждают опровергнутые историей идеи уравнительной справедливости и мифы, что у белорусского народа есть лишь один достойный руководитель — Лукашенко (другие «обманут»), а народ нищает не из-за невежественного руководства страной, а из-за происков многочисленных врагов.

**Лукашенковский курс на полное единение с Россией контрпродуктивен.** Для Лукашенко объединение в одно государство — это способ ухода от ответственности за результаты своей экономической политики, попытка удержаться у власти. Он рассчитывает на то, что ради имперских устремлений российская элита готова и дальше жертвовать своими насущными экономическими интересами. События последних лет свидетельствуют, что значительная часть российской элиты не в состоянии отказаться от имперского мышления и блокового мировоззрения. Но **это никак не соответствует нашим национальным интересам. Объединение с Россией не поможет Беларуси решить ни одной экономической проблемы.** Сохранение для нас российского рынка и получение энергоресурсов возможно и при сохранении нынешнего статус-кво.

**Главная политическая проблема Беларуси — отсутствие возможности в полный голос обсуждать свою судьбу.** Власти говорят об очередном референдуме – но кто будет судьей, определяющим уровень желания белорусов превратить свое государство в окраинную провинцию России, кто обеспечит невозможность очередной фальсификации волеизъявления граждан Беларуси? В стране нет легитимного органа, который мог бы на законной основе ратифицировать документы об объединении. Россия предала нас в 1996 году – после фальсификации референдума и конституционного переворота. Она готова предать Беларусь в очередной раз.

Наше лучшее будущее связано с пробуждением активности нашего народа, с моральной поддержкой цивилизованного мира.

